

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
ЛІПЕНЬ
5
СЕРАДА
№ 98/ 1027
Цана
200 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ЗАРЭГІСТРАВАНЫ ЗНАК ІНТЭЛЕКТУ

Міністэрства юстыцыі рэспублікі зарэгістравала гэты знак пры правядзенні перарэгістрацыі Руха Беларускі Інтэлектуальны рэсурс. Распрацавала яго дызайнер Юлія Кокіна. Суправадзіцельны надпіс па-латыні абвяшчае: «Signum Intellectus».

Як паведаміла загадчыца аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццяна Рошчына, у старадаўніх вавілонскіх і шумерскіх астралагічных хроніках сустракаецца атаясамліванне анатамічнага ўмясцілішча мозгу — галавы — са знакам планеты Юпітэр. Графічна спалучыўшы гэты знак з узыходзячай развіваючайся спіраллю, якая выказвае ідэю прагрэсіўнага развіцця, дызайнеру ўдалося стварыць сімвал інтэлекту як асноўнай ствараючай сілы чалавечага грамадства.

**Уладзімір ГРОМАЎ.**

### ПЕРШЫ ВЫХАД АКАЗАЎСЯ ЎДАЛЫМ

У традыцыйнай Сусветнай выставе сцэнаграфіі, касцюма і тэатральнай архітэктуры ў Празе, заснаванай адным з самых праслаўленых сучасных мастакоў тэатра Йозефам Свободам, упершыню бралі ўдзел прадстаўнікі Беларусі.

Наша экспазіцыя ўключала макеты, эскізы дэкарацый і касцюмы мастакоў Людмілы Ганчаровай, Элеаноры Грыгарук, Зіновія Марголіна, Дзмітрыя Мохава, Валерыя Рачкоўскага, Аліны Фаміной. Сярэбнага медаля Пражскага квадрыенале ўдастоены З.Марголін за макет афармлення спектакля «Загнаны конь» па п'есе Франсуазы Саган (пастаноўка Тэатра Савецкай Арміі, Масква).

**Алена САЛАМАХА.**

### ПРИЗВАНЫ И ПРИВЕДЕНЫ К ПРИСЯГЕ

Уже больше месяца в воинские коллективы белорусской армии поступает пополнение из призывников весеннего призыва.

К этому времени, как сообщили в организационно-мобилизационном управлении Главного штаба Республики Беларусь, надели военную форму почти 50 процентов парней, которым исполнилось 18 лет, и не имеющих права на отсрочку. Нынешняя призывная кампания продлится до 25 июля.

Вновь прибывшие через некоторое время станут под боевые знамена. В минувшее воскресенье, когда широко отмечалась 51-я годовщина освобождения Беларуси от фашистов, в воинских частях прошло торжественное принятие военной присяги молодыми воинами.

**Сергей ВЕРЕЩАК.**

### «ДНИ БЕЛАРУСИ» В МИРЕ

По решению президиума Белорусского общества дружбы и культурных связей с зарубежными странами в сентябре планируется провести «Дни Германии в Республике Беларусь», а в конце 1995 года — «Дни Республики Беларусь в Испании».

На состоявшемся заседании президиума Общества обсуждались также вопросы белорусско-французского, белорусско-германского сотрудничества, а также вопросы связей Общества со странами ближнего зарубежья.

**Наталья ГУСАКОВА.**

### АКАДЭМІЯ НАВУК ПРЭЗЕНТУЕ

5 ліпеня ў Акадэміі навук адбудзецца прэзентацыя першай Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці Рэспублікі Беларусь.

Яна падрыхтавана Аддзяленнем гуманітарных навук АН пры тэхнічнай і фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь. Дапамог фінансамі выдавецкаму калектыву і ўрад Японіі. У напісанні справаздачы ўзялі ўдзел супрацоўнікі Акадэміі навук, Міністэрства замежных спраў, Белстандарта, Мінстата, Інстытута крыміналогіі Мінюста, Цэнтра гендэрных даследаванняў. Аўтары праааналізавалі ўзровень і ўмовы сённяшняга жыцця насельніцтва рэспублікі, яе дзяржаўную палітыку, эканамічную і экалагічную сітуацыю ў краіне, стан навукі і нацыянальнай культуры, становішча жанчын у грамадстве, разгледзелі пытанні барацьбы са злачыннасцю і шмат іншых. Складальнікі мяркуюць, што нацыянальная справаздача дапаможа сусветнай супольнасці лепей зразумець сітуацыю ў Беларусі і яе праблемы, якія вымагаюць дапамогі ў вырашэнні.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### ЗАИНТЕРЕСОВАНЫ В ВОЕННОМ СОТРУДНИЧЕСТВЕ

Закончился визит в Беларусь американской делегации во главе со специальным помощником США, старшим директором отдела по делам России, Украины и Евразии Совета национальной безопасности США Койтом Блэкером.

Как сообщили в пресс-службе Министерства обороны страны, в ходе визита состоялась встреча делегации с исполняющим обязанности министра обороны Республики Беларусь генерал-лейтенантом Леонидом Мальцевым. Обе стороны обменялись мнениями о ходе и состоянии реализации военного сотрудничества вооруженных сил двух стран и программы Нанна-Лугара. Была дана положительная оценка этим программам и выражена заинтересованность в их продолжении и развитии.

На встрече присутствовал Чрезвычайный и Полномочный Посол США в Республике Беларусь г-н К.Яловиц.

**Сергей ВЕРЕЩАК.**

### ХРИСТИАНЕ США — ГРАЖДАНАМ БЕЛАРУСИ

В Беларусь прибыл груз гуманитарной помощи из США. Это 16 тонн лекарств и медицинского оборудования, которые поступили в нашу страну при содействии добровольной христианской организации International Aid Inc. В предыдущие три года американские добровольцы уже доставили в Беларусь около 80 тонн различных грузов гуманитарного назначения. Очередной контейнер сопровождает наш земляк, выходец из Беларуси, а ныне гражданин США, 67-летний Николай Пруский из города Гранд Рэпидс.

Представитель США особо подчеркнул, что International Aid Inc. оказывает помощь всем нуждающимся, независимо от их конфессиональной принадлежности, взглядов и убеждений.

**Алесь ВЕТЕР.**

**КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 5 июля 1995 г.**

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| БЕЛАРУСБАНК | 11200* | 11450* | 8000* | 8250* | 1.80* | 2.50* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11000* | 11550 | 7700* | 8350 | 2.10* | 2.6 |
| ФК "ВЕРОНИКА" *** | 11200 | 11420 | 8040 | 8300 | 2.32 | 2.45 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11180* | 11450 | 7950* | 8200 | 2.20 | 2.40 |
| ПРИОРБАНК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| СБЕРБАНК | 11000 | 11500 | 7800 | 8100 | 2.2 | 2.4 |
| ОЛИМП | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Ф-л МИЛАВИЦА АКБ ДУКАТ | 11150* | 11600 | 7800 | 8200 | 2.1 | 2.5 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция) | 11200 | 11450 | 8000 | 8250 | 2 | 2.5 |
| "ИНТЕК" | 11200 | 11500 | 7900 | 8200 | 2.2 | 2.5 |
| ДУКАТ | 11200* | 11550* | 8000* | 8300* | 2.2* | 2.70** |
| МинскКОМПЛЕКСБАНК | 11190<br>11280** | 11550*<br>11600** | 7982<br>8046** | 8250* | 2.3 | 2.6 |
| ЭЛИТБАНК | 11200 | 11500 | 7800 | 8300 | 1.9 | 2.45 |
| Ф-л НЕМИГА АКБ ДУКАТ | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Филиал №1 АКБ ОЛИМП | 11200* | 11400* | 7900* | 8150* | 2.20* | 2.4* |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11150* | 11450 | 8080* | 8300 | 2.1 | 2.6 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11000 | 11450 | 7700 | 8300 | 2.1 | 2.6 |

* Возможна операция за наличный и безналичный расчет

** Операция проводится только по безналичному расчету

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Грецова".

| | | | |
|---|---|---|---|
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б\н расчетов) | 11500 | 8332.13 | 2.50 |

### КОРАТКА

Мэр Масквы Юрый Лужкоў мае намер у бліжэйшую пятніцу, 7 ліпеня, наведаць Мінск з афіцыйным візітам. Падчас знаходжання ў Мінску Ю.Лужкова плануюцца сустрэчы з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, прэм'ерам Міхаілам Чыгіром, іншымі афіцыйнымі асобамі.

Бакі маюць намер разгледзець практычна тое ж кола пытанняў, што і падчас візіту Прэзідэнта Беларусі ў Санкт-Пецярбург. Паводле паведамлення той жа крыніцы, першапачаткова візіт макоўскага мэра планаваўся некалькі пазней. Аднак рашэнне Дзярждумы Расіі аб павышэнні падатку на імпартныя прадукты вымусіла Юрыя Лужкова паскорыць візіт у суседнюю рэспубліку. Мяркуецца, што бакі падпішуць пагадненне аб буйных пастаўках у сталіцу Расіі беларускіх прадуктаў (перш за ўсё, бульбы, мяса і масла).

***

**Как свидетельствуют данные Министерства статистики и анализа Республики Беларусь, на городских рынках страны в мае, по сравнению с апрелем 1995 года, цены на продукты питания снизились на 2,2%, в том числе на сметану — на 12,3%, на масло животное, мясо кур, творог — на 7–8%, на яйца — на 3,3%. Лук зеленый подешевел в 2,4 раза, свежие огурцы и помидоры — на 23%, лук репчатый — на 17,1%, чеснок — на 10,7%. В то же время капуста свежая подорожала на 43,9%, огурцы соленые — на 22,7%, свекла — на 17,9%, морковь — на 10,6%, мед — на 9,7%.**

## МЕТАМАРФОЗЫ РЫНКУ

**Тамара МАРКІНА, «ДВ».**

***Напрыканцы мінулага тыдня адбыўся аб'езд-агледзіны гарадскіх улад, падчас якога ацэньвалася добраўпарадкаванне прыдворкаў і вуліц — аб гэтым ужо паведамлялася ў нашай газеце. Тым не менш, звернемся зноў да вынікаў аб'езду, бо падчас яго мы пазнаёміліся з шэрагам выпадкаў мецэнацтва або надта адметнага выхаду з крызісных сітуацый, якія нярэдка падкідвае нам жыццё...***

### «БЕЛАРУСЬБАНК» — ГАРАДЖАНАМ

Перад самым аб'ездам рэкламны аддзел «Беларусьбанка» амаль у поўным саставе атакаваў гарадское кіраўніцтва. На ліхтарную матчу хлопцы прымацавалі доследны экземпляр шыльды з указаннем аўтобусна-тралейбусных маршрутаў. Як аказалася, такая шыльда — правобраз тых, якія хутка з'явяцца на ўсіх 3600 прыпынках гарадскога транспарту. Выраб гэтых шыльд і абслугоўванне ўзяў на сябе «Беларусьбанк». І пойдзе на гэтую справу ні многа ні мала — 100 тысяч долараў.

На мецэнацтва банк вырашыў пайсці не без выгады для сябе. На абодвух баках шыльды змешчана яго рэклама. На тым, што глядзіць ад прыпынку, рэклама нават на ўсю шыльду. Любяць фінансавыя магнаты рабіць добрую справу і пры гэтым гучна гаварыць аб сабе. Маюць права — іх грошы.

### КОСМАС ПРОСІЦЬ ГРОШАЙ

Выжыць — паставіў сабе задачу Інстытут кібернэтыкі. І... прытуліў пад сваім дахам — а будынак яго ў самым цэнтры горада, у двух кроках ад праспекта Ф.Скарыны — біржавы банк, мэблевы салон, стаматалагічны кабінет і іншыя айчынныя і замежныя фірмы. Ёсць тут і стыльнае кафэ «Версаль» з гіпсавым чарнаскурым швейцарам, вустрыцамі і чарапахавым супам. Абед тут, кажуць, цягне на 50 долараў. Але ж, як паказвае жыццё, такія рэстарацыі сёння не пустуюць. Значыць, будуць грошы і ў навукоўцаў: за субарэнду, якую заплацяць гэтыя прыбытковыя фірмы, будуць праводзіцца найсучаснейшыя навуковыя распрацоўкі, касмічныя ў тым ліку. Вось такая няхітрая мікраэканоміка. Трымайся, навука!

### НЕ БАЛІЦЕ, ЗУБЫ!

Непрыкметна мінуў час сямейных святаў. У госці ходзім ўсё радзей, а святы ладзім часцей у сваіх уласных закутках. Вось і аддалі ўлады Заводскага раёна чыжоўскі Дом сямейных святаў пад жэсаўскія патрэбы. Дзякуючы гэтаму, былыя «апартаменты» ЖЭСаў сталі пятнаццаццю кватэрамі для жыхароў раёна.

Другі ж паверх Дома святаў заняў навукова-вытворчы цэнтр «Стаматалогія». Як зазначыў яго дырэктар А.А.Лазарчык, магутнасці цэнтра такія, што ён здолее забяспечыць пратэзаванне зубоў усіх мінчан, маючых у гэтым патрэбу. Засталося толькі разбагацець. Адзін штучны зуб абыдзецца ў 40-120 долараў. Лячэнне — танней, у 10-40 долараў, але, кажуць, зусім без болю. Дарагавізна тая абумоўлена найсучаснейшымі тэхналогіямі. Толькі паспелі вынайсці шведы рэнтген-камп'ютэр, на якім пацыент прама ў крэсле стаматолага можа ўбачыць свой хворы зуб (гл. газету «Известия» за 29.07.95 г.), а ўстаноўка гэтая з'явілася ў нас — у Чыжоўцы. Што тут сказаць, аператыўна еўрапейскія вынаходніцтвы трапляюць на наш рынак.

***

***Толькі закончыўся аб'езд горада, а ўлады ўжо прапануюць новы. Падчас яго будуць агледзены аб'екты бытавога абслугоўвання, гандлёвыя прадпрыемствы, іх вонкавы выгляд. І галоўнае, што не можа не радаваць, асаблівая ўвага будзе нададзена тратуарам, пешаходным сцежкам. Адным словам, увесь клопат аб нас, пешаходах.***

ДЗЯРЖАЎНЫ АЛІМП

## ДЭПУТАТЫ АД АГРАРНАЙ ПАРТЫІ НЕ ЛІЧАЦЬ СЯБЕ «ЧЫРВОНЫМІ ПАМЕШЧЫКАМІ» І ЖАДАЮЦЬ ДАКАЗАЦЬ ГЭТА НА СПРАВЕ

**Сяргей ГРЫБ, «ДВ».**

**Учора ў прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета адбылася першая сустрэча журналістаў з кіраўніцтвам новаўтворанай Аграрнай фракцыі ў парламенце новага, XIII-га склікання.**

Як вядома, пакуль менавіта Аграрная партыя атрымала адносную большасць дэпутацкіх мандатаў у Вярхоўным Савеце Беларусі, што павінна разглядацца як сур'ёзная заяўка аграрыяў на тытул «заканадаўцаў мод» у новым парламенце. Разам з тым, як зазначыў старшыня фракцыі прафесар Сямён Шарэцкі, цяперашнія дзеянні аграрыяў не павінны выходзіць за рамкі закону. Таму ў сітуацыі, калі папярэдні Вярхоўны Савет яшчэ не страціў сваёй легітымнасці, асноўнымі задачамі дэпутатаў-аграрыяў стануць авалоданне вопытам заканадаўчай работы, а таксама выпрацоўка ўласных прынцыпаў дзейнасці ў парламенце.

Падчас прэс-канферэнцыі дэпутаты ад Аграрнай партыі неаднаразова падкрэслівалі, што сваёй асноўнай мэтай яны бачаць вырашэнне сучасных эканамічных праблем Беларусі, і, зразумела, у першую чаргу — праблем аграпрамысловага комплексу. Так, на думку намесніка старшыні партыі Мечыслава Гіруця, сёння, калі большасць вяскоўцаў жыве па прынцыпу «трох Д» — даядаем, данашваем, дажываем — аграрыі павінны скіраваць сваю дзейнасць на выхаванне адказнага за сваю працу чалавека-гаспадара. Зрабіць гэта магчыма толькі праз прыватызацыю. Але прыватызацыю не ў сучасным «чэкавым» выглядзе, а праз надзяленне кожнага грамадзяніна краіны адмысловым «актам на права валодання зямлёй і асноўнымі фондамі дзяржмаёмасці». Менавіта такі падыход, як запэўніў М.Гіруць, дазволіць вяскоўцу вызначыць, што для яго лепш — фермерства альбо рэфармаваная калектыўная гаспадарка, створаная на аснове прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці і, у перспектыве, на зямлю. Зразумела, найбольш эфектыўным аграрыям здаецца другі варыянт.

Апроч таго ўдзельнікамі прэс-канферэнцыі быў выказаны шэраг канкрэтных прапаноў па аздараўленню аграпрамысловага комплексу краіны. Сярод іх — ліквідацыя дысбалансу цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, замена дванаццаці падаткаў, якія цяпер плацяць вяскоўцы, на адзін — зямельны, а таксама канцэнтрацыя вытворчасці, перапрацоўкі і рэалізацыі прадукцыі харчавання «ў адных руках».

На пытанне прадстаўнікоў прэсы аб тым, ці здольны аграрыі займацца парламенцкай дзейнасцю на адпаведным узроўні, Сямён Шарэцкі заявіў, што ўсе 36 членаў Аграрнай фракцыі (дарэчы, роўна палова з іх з'яўляюцца старшынямі калгасаў і саўгасаў) гатовыя працаваць у Вярхоўным Савеце на прафесійнай аснове і даказаць на справе, што «Аграрная партыя — гэта не наменклатурная партыя «чырвоных памешчыкаў», а арганізацыя сур'ёзных, адукаваных і дзелавых людзей».

МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА

## У ГОНАР ПОДЗВІГАЎ ВОІНАЎ-САПЁРАЎ

**Наталля ВАЛАКІДА.**

У панядзелак у Мінску па вуліцы Сапёраў (праспект Машэрава і вуліца Ціміразева) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі «у гонар гераічных баявых і працоўных подзвігаў воінаў-сапёраў».

Нагадаем, што сваю назву безыменная дагэтуль вуліца атрымала нядаўна, а ўстанаўленне памятнага знака адбылося ў дзень вызвалення горада. Як адзначылі выступоўцы, пры вызваленні Беларусі загінула 16 тысяч сапёраў, у пасляваенныя гады сапёры знішчылі больш за 25 мільёнаў выбухованебяспечных прадметаў. А толькі за мінулы год імі было абясшкоджана каля 86 тысяч выбуховых прадметаў. Сваю ўдзячнасць і падзяку воінам-сапёрам на ўрачыстай цырымоніі выказалі намеснік старшыні гарвыканкама Алесь Сасноўскі, начальнік інжынерных войскаў Узброеных Сіл, генерал-маёр Валерый Лепяшынскі, ветэраны вайны і сённяшнія спецыялісты інжынерных войскаў.



СВЯТА

## «НА КУПАЛЛЕ, НА СВЯТОЕ...»

*Начнымі купальскімі феерверкамі азорыцца беларуская сталіца ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Але перад тым, як кінуцца на пошукі чароўнай кветкі папараці, Літаратурны музей Янкі Купалы запрашае ўсіх мінчан — аматараў паэзіі прычасціцца высокім паэтычным словам. У парку, ля помніка вялікаму песняру, 6 ліпеня ў 18 гадзін пачнецца свята, прысвечанае 113-ай гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы. Прыйдуць сюды вядомыя беларускія пісьменнікі, грамадскія і палітычныя дзеячы, сярод якіх Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Станіслаў Шушкевіч, Радзім Гарэцкі. У выкананні беларускіх акцёраў Віктара Манаева, Валерыя Шушкевіча, Мікалая Казачэнкі прагучаць вершы Янкі Купалы. Цудоўнай беларускай народнай музыкай парадуюць прысутных фальклорныя ансамблі «Купалінка» і «Гармонік».*

ПАРТЫІ

## ГРАМАДА МЯНЯЕ ЛІДЭРА

Два пытанні — аб дзейнасці пасля выбараў у Саветы і абранне кіраўніцтва партыі — стаялі на парадку дня III з'езда Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, які прайшоў у мінулую суботу ў Мінску.

Безумоўна, найбольшую цікавасць выклікала абмеркаванне кандыдатур прэтэндэнтаў на пасаду старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ. Дастаткова сказаць, што сярод іх называліся такія вядомыя ў нашай краіне палітыкі, як дэпутат Вярхоўнага Савета і лідэр Грамады Алег Трусаў, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікола Статкевіч і намеснік старшыні Мінгарсавета Анатоль Гурыновіч. У выніку двух тураў галасавання большасць прысутных аддала перавагу Міколу Статкевічу.

Апроч таго, як паведаміў намеснік старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ Мікола Кійка, з'езд вырашыў скіраваць далейшую дзейнасць партыі перш за ўсё на падтрымку захадаў прафсаюзаў па арганізацыі масавых акцый пратэсту супраць праводзімай сёння сацыяльна-эканамічнай палітыкі ўрада.

**Сяргей ГРЫБ.**

